№ 107 (1172)
Чацвер, 14 чэрвеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзь, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля



**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, у паўночна-ўсходніх раёнах — кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні і паўднёва-заходні, 5—10 м/с, на поўначы парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — +15...+17, Мінску — +18...+20, Магілёве — +17...+19, Брэсце — +20...+22, Гомелі, Гродне — +19...+21.
У наступныя двое сутак — месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/с. Тэмпература ўначы — +7...+12, удзень +18...+23, на поўдні да +26.



**ПУЛЬС**

## Еўрасаюз заклікаў улады Беларусі да супрацоўніцтва

**У сувязі з абвяшчэннем Рэспублікай Беларусь даты правядзення прэзідэнцкіх выбараў 9 верасня 2001 года Еўрапейскі Саюз зноў заяўляе аб сваёй падтрымцы дэмакратычнага развіцця Беларусі і падкрэслівае важнасць свабодных і справядлівых выбараў.**

ЕС залікае ўрад Беларусі выконваць свае абавязацельствы, прынятыя ў рамках Капенгагенскага дакумента АБСЕ, і ўстрымацца ад умяшання ў дзейнасць палітычнай апазіцыі і незалежных рухаў. "Выкананне прынцыпу свабоды сходаў з'яўляецца ў гэтай сувязі цэнтральным момантам", — адзначаецца ў дакуменце. ЕС нагадвае ўраду Беларусі аб неабходнасці аб'ектыўнага асвятлення пазіцый усіх кандыдатаў у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Адзначаецца, што незалежныя газеты павінны працаваць у аднолькавых умовах з дзяржаўнымі выданнямі і не падвяргацца дыскрымінацыі.

Надзвычай важная роля АБСЕ падчас выбарчага перыяду. ЕС поўнасцю падтрымлівае працу Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ, дзеючай у рамках мандата, і будзе праводзіць цесныя кансультацыі з АБСЕ. ЕС чакае ад беларускіх улад працягу дыялога з Кансультацыйна-назіральнай групай і канструктыўнага супрацоўніцтва з паслом Вікам.

ЕС заяўляе аб гатоўнасці распачаць дыялог з урадам Беларусі для садзейнічання арганізацыі дэмакратычных прэзідэнцкіх выбараў. Адзначаецца, што Еўрасаюз мог бы зрабіць першы крок для нармалізацыі адносін з Беларуссю ў выпадку, калі ўнутраныя назіральнікі і, магчыма, місія БДіПЧ ацэняць выбары ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі як свабодныя і справядлівыя.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## Цярэшчанка і Гайдукевіч зарэгістравалі свае групы

**12 чэрвеня Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў зарэгістравала дзве першыя ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты.**

Рэгістрацыйны №1 атрымала ініцыятыўная група Віктара Цярэшчанкі, які раней за іншых прэтэндэнтаў (яшчэ 9 чэрвеня) здаў у Цэнтрвыбаркам усе неабходныя для гэтага дакументы. У ініцыятыўную групу Цярэшчанкі ўваходзяць больш за 6 тысяч чалавек. Сам Віктар Цярэшчанка паабяцаў на пасяджэнні членаў ЦВК весці сваю выбарчую кампанію ў рамках Канстытуцыі і беларускага заканадаўства і не выкарыстоўваць "брудныя піар-тэхналогіі".

Члены другой ініцыятыўнай групы ў складзе 2134 чалавекі будуць збіраць подпісы ў падтрымку лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі і блока "Новая Беларусь — Адзінства" Сяргея Гайдукевіча.

Кіраўнікі штабоў прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду кіраўніка дзяржавы павінны атрымаць пасведчанні на ўсіх членаў ініцыятыўных груп. Аднак збіраць подпісы яны маюць права толькі з 21 чэрвеня.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## "Беларуснафта" не памяншае аб'ёмы здабычы нафты

**Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства (РУП) ВА "Беларуснафта" ў студзені—маі 2001 года здабыла 769 тысяч 804 тон вуглевадароднай сыравіны, што адпавядае аб'ёму здабычы за аналагічны перыяд мінулага года.**

Здабыча спадарожнага нафтавага газу за пяць месяцаў бягучага года склала 106.905 тысяч кубічных метраў (100 працэнтаў). У маі ВА "Беларуснафта" здабыла 159.357 тон нафты (100,6 працэнта) і 21.881 тысячу кубічных метраў спадарожнага нафтавага газу (95,6 працэнта).

На балансе ВА "Беларуснафта" знаходзіцца больш за 60 мільёнаў тон запасаў нафты, разлічаных у адпаведнасці з праектнымі каэфіцыентамі нафтаздабычы. Геалагічныя запасы нафты складаюць звыш 200 мільёнаў тон. Па ацэнках спецыялістаў, у перспектыве цяжказдабываемая нафта будзе складаць аснову рэсурснай базы аб'яднання.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА.**

## Янка Брыль узнагароджаны ў Польшчы

**Вядомы пісьменнік Янка Брыль узнагароджаны ганаровым дыпломам і медалём Таварыства супрацоўніцтва "Польшча — Усход" за актыўную дзейнасць па развіцці супрацоўніцтва ў галіне культуры паміж Польшчай і краінамі былога Савецкага Саюза, у прыватнасці — за шматгадовую літаратурную, перакладчыцкую і грамадскую дзейнасць.**

Цырымонія ўручэння адбылася 11 чэрвеня ў сядзібе Таварыства ў Польшчы. Сам Янка Брыль не змог на ёй прысутнічаць, а таму ўзнагарода была прынята прадстаўніком беларускага пасольства ў Польшчы. Як адзначаюць у прэс-службе МЗС, ганаровая ўзнагарода Таварыства "Польшча — Усход" уручаецца ўпершыню.

**Наталля КУЛАГІНА.**

# ВЯРТАЙСЯ ХУТЧЭЙ, ДЗЕД!

Пайшоў на чарговую адсідку вядомы беларускі праваабаронца (а з пункту гледжання ўлад, "зэк-баламут") Валерый Шчукін. Нагадаем нашым чытачам, што за спробу рэалізаваць сваё журналісцкае права і праравацца на прэс-канферэнцыю міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава некалькі месяцаў таму Шчукін быў асуджаны на тры месяцы турмы.

Прыгавор уступіў у сілу, і ў аўторак наш калега адправіўся ў Фрунзенскі РАУС, адкуль ён быў этапіраваны ў ізалятар часовага ўтрымання (ІЧУ), а потым — у СІЗО на Валадарцы. Праводзіць Шчукіна, "зэка" са стажам, прыйшла ўнучка афіцэра Жэня Пігуль з карэспандэнтам "Народнай волі". Перш чым растварыцца ў "недрах" Фрунзенскага РАУС Шчукін выказаў спадзяванне, што выйдзе на волю крыху раней — не 12 верасня гэтага года, як сказана ў прыгаворы, а крыху раней — 10-га, адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў.

А што, добры стымул для новага прэзідэнта! Вызваліць у першы ж дзень свайго кіравання з-пад кратаў не толькі шматпакутніка Андрэя Клімава, але і нашага шаноўнага дзеда Валерыя Шчукіна.

Чакаем Вас, Валерый Аляксеевіч, на волі! Трымайцеся!

**Алесь СІЛІЧ.**

# ЗАЯВЛЕНИЕ

А.Лукашенко и его окружение не хотят расставаться с властью мирным и законным путем. Они намерены удерживать ее вопреки воле народа. Чтобы не допустить победы демократического кандидата, режим идет на разного рода ухищрения. Осуществляется планомерная работа по расколу оппозиционных ему сил, государственные СМИ ведут разнузданную клеветническую кампанию против возможных независимых кандидатов в президенты.

Особое место в арсенале противозаконных средств борьбы режима за удержание власти занимают так называемые предвыборные технологии, в частности, связанные с порядком регистрации кандидатов в президенты. Белорусская общественность хорошо помнит опыт прошлогодних парламентских выборов, когда наиболее неугодные режиму претенденты на депутатские места в парламенте отстранялись от участия в избирательной кампании еще на этапе их регистрации окружными комиссиями и Центризбиркомом. Основным механизмом "выбраковки" неугодных стало "обнаружение недействительных" собранных подписей в их поддержку. Таким способом сотни претендентов были лишены законного права бороться за депутатский мандат.

Накопленный прошлой осенью опыт незаконного отстранения от участия в избирательной кампании наиболее перспективных политиков режим намеревается применить на президентских выборах 2001 года. Ставится задача превратить процедуру регистрации кандидатов в президенты в своеобразное сито, сквозь которое не смогут пройти самые перспективные независимые претенденты.

В этой связи демократической общественности важно добиться объективной проверки и признания Центризбиркомом действительными подписей в поддержку независимых кандидатов. На данном этапе это становится решающим моментом борьбы демократических сил Беларуси за справедливые выборы нового главы государства.

Мы заявляем, что любые действия государственных структур и должностных лиц, направленные на то, чтобы воспрепятствовать незаконными методами регистрации независимых кандидатов в президенты, будут расцениваться как антиконституционные. Ответственные за это в обязательном порядке понесут уголовное наказание.

Мы призываем общественность страны, международную общественность проявить бдительность в отношении намерений белорусской власти вести президентскую избирательную кампанию жульническими методами! Мы призываем не допустить, чтобы процедура регистрации независимых кандидатов была превращена режимом в процедуру исключения их из борьбы на президентских выборах!

**Оргкомитет по созданию коалиционного движения "За новую Беларусь".**

# "ЗУБР" шагает по стране

## Открыли дачный сезон

Активисты незарегистрированного молодежного движения сопротивления "ЗУБР" начали кампанию под названием "Дачник — тоже человек". На днях в переполненных вагонах пригородных дизелей помимо обычных бабушек, продающих кроссворды и анекдоты, появились энергичные парни в майках "ЗУБРа" с надписью "ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!", которые распространяли независимую прессу.

Аналогичная акция проводится и в городском транспорте. Уже неделю в троллейбусах и автобусах действуют летучие пикеты: в автобус, троллейбус или трамвай заходят несколько человек, часть из которых раздает газеты, а другая часть обклеивает наклейками салон. Такие акции чрезвычайно эффективны (только в одних троллейбусах, по статистике троллейбусно-трамвайного управления, перевозится в день 220 000 человек) и практически безопасны.

*Падчас адной з акцый "Зуброў".*

## Спробы затрыманняў у Брэсце

У Брэсце былі затрыманы прадстаўнікі незарэгістраванага руху "ЗУБР" Кірыл Данько, Андрэй Залатар, Васіль Хатынюк, Андрэй Хоміч і іншыя.

У даволі грубых выказах хлопцам было адмоўлена ў праве патэлефанаваць дахаты, пры гэтым міліцыянты ўсімі сваімі паводзінамі нахабна дэманстравалі поўную непавагу да закона. Так, на пытанне лейтэнанта, які затрымаў "зуброў", што з імі рабіць, дзяжурны капітан вельмі сур'ёзна і рашуча адказаў: "Расстраляць!". Калі "зубры" звярнулі ўвагу супрацоўнікаў РАУС на парушэнне сваіх канстытуцыйных правоў, то ў адказ пачулі: "Забудьте про Конституцию!". Лейтэнантам А.В. Каваленкам быў складзены пратакол канфіскацыі 152 газет (пры рэальнай колькасці больш за тысячу).

На газетах, якія крычаць пра боль і слёзы беларусаў, вартавыя парадку паабяцалі "рэзаць каўбасу ды ставіць шклянкі з гарэлкай". Дарэчы, многія міліцыянты падкрэслівалі пры гэтым, што Лукашэнку яны не падтрымліваюць.

Праз пару гадзін хлопцаў выпусцілі з пастарунку.

## ...В следующую ночь в Молодечно появились новые надписи

Как известно, Александр Лукашенко посетил молодечненский фестиваль. Не оставили это событие без внимания и местные "зубры". За несколько дней до приезда Лукашенко десятки активистов движения вышли на улицы города с баллончиками. По предполагаемому пути кортежа были сделаны соответствующие надписи, по всему городу появились логотипы с изображением символа движения.

Местные власти были взбешены: милиция на улицах подходила к случайным молодым людям и обыскивала их. Было задержано несколько человек из других организаций. В следующую ночь в городе появились новые надписи. Стремясь угодить своему вождю, местные вертикальщики выгнали на улицы несколько десятков маляров, которые целый день остервенело закрашивали надписи.

Однако это не могло изменить отношения жителей Молодечно к правителю. Оба выступления Лукашенко, вопреки его ожиданиям, вызывали не восторженные аплодисменты, а издевательские реплики, что заставило его побагроветь.

По периметру площади тем временем были выставлены несколько точек, в которых молодые люди в майках с призывами "ВРЕМЯ ВЫБИРАТЬ!" раздавали детям надувные шарики.

**http://www.zubr-belarus**

**МОСКВА—МИНСК**

# Размолвка?

**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

Все-таки удивительно быстро мчится историческое время. Кажется, еще вчера российская демократия ликовала по поводу объявления независимости России и Борис Ельцин, подобно римскому триумфатору, своими публичными речами о свободе и независимости приводил в неистовый восторг толпы россиян. Кажется, совсем недавно многие люди, жившие в союзных республиках, растерянно спрашивали: "Что будет с нами дальше, ведь Российская Федерация была стержнем великого государства?"

Дальше началось независимое существование государств, образовавшихся на развалинах великой советской империи. Начались мучительные поиски новых взаимоотношений этих государств с бывшей метрополией по имени Россия. Одни, как государства Балтии, поспешили отодвинуться от российского мира на безопасную дистанцию, другие, как Беларусь, где советский дух нашел для себя убежище, принялись искать пути, чтобы тем или иным образом устроиться под крылом империи.

Совсем свежи воспоминания о конце советской эпохи, а в Кремле на днях уже прошла официальная церемония по случаю десятилетия независимости России. Торжественные речи, вручение наград, спичи. Среди награжденных Владимир Путин особое внимание уделил первому российскому президенту, еще раз подчеркнув таким образом легитимность и преемственность своей власти.

Однако в разнообразии церемониальных жестов и слов читалась иная символика. Прошедшее десятилетие — эпоха Ельцина. И эта эпоха кончилась. Отныне в российской политике не будет места романтическим порывам, Россия далее не станет заниматься бесплатной раздачей слонов под интеграционную и иную риторику. Наступила эпоха прагматизма. Путин и окружающие его энергичные волки из спецслужб намерены строить российский мир по своему разумению. Россия нуждается в либеральной экономике, но отнюдь не в либеральном политическом устройстве. Сильное полицейское государство, ориентированное прежде всего на эффективное обеспечение собственных планов и интересов на всех направлениях российской жизни — такова путинская альтернатива ушедшей эпохе. Свободы по-ельцински и государственное миндальничанье с окружающим миром остались в прожитом десятилетии. Россия востребует китайский опыт.

Быть может, покажется неожиданным, но тема окончания одной эпохи и начала другой прозвучала в интервью Ельцина Общественному российскому телевидению 12 июня, которое было приурочено ко дню России и воспринималось как его прощальное политическое послание. Экс-президент выглядел, как никогда, бодрым и внятным. Но тональность речи, ее подтекст выдавали в нем пенсионера, который доволен тем, что райсобес выдал пенсию и пообещал выдавать далее, если, конечно, поведение старика будет примерным.

Борис Николаевич охотно рассказал о своей недавней поездке в Китай на отдых, о встречах с китайскими друзьями. Тема Китая прозвучала, как нечто само собой разумеющееся, почти родное. Ничего особенного не было сказано, однако некий намек получился, дескать, там хорошо.

Но, конечно, самое главное в его интервью — это заявление о том, что действующий глава государства должен иметь свою команду, это необходимо в интересах дела. Иными словами, бывший президент дал понять российскому политесу, что Путин свободен от обязательств перед старой командой, которые давал, когда год назад вступал в должность. Из уст Ельцина прозвучало уведомление о том, что Кремль готов к решительной кадровой чистке. Это означает, что людям типа Волошина, все еще бродящим по кремлевским коридорам, совсем скоро придется сдать пропуска.

Одновременно интервью Ельцина стало посланием внешнеполитическим сателлитам, приспособившимся к российской орбите в период его правления, о том, что время пустопорожнего братания — в прошлом, поскольку романтизм в государственной политике России уступил место трезвому расчету, диалогу с позиций сильнейшего.

Последнее особенно относится к официальному Минску, политический курс которого до сих пор строился на эксплуатации славянофильского сентиментализма, обильно присутствовавшего во внешней политике ельцинского руководства. Нынешним хозяевам Кремля не нужны "великие" интеграторы из провинции, не нужны строптивые и амбициозные союзники, к тому же активно сотрудничающие с российской левой оппозицией.

Собственно, это стало ясно еще раньше. Путин созрел для того, чтобы освободиться от старых кадров не только в Кремле, но и в зоне российского влияния, называемого ближним зарубежьем. Когда 10 июня Владимир Познер в телевизионной программе "Времена" провел массированную атаку на припудренный в глазах российского зрителя имидж белорусского вождя, политический мир отчетливо осознал, что кремлевская поддержка Лукашенко на выборах в сентябре проблематична. Искушенный в кремлевских настроениях телеведущий вряд ли мог пригласить в телеэфир Чигиря, Козловского, Гончарика, Домаша, Калякина, намеревающихся отнять у Лукашенко президентское кресло, не будь на то хотя бы молчаливого согласия кремлевских кураторов.

О том, что Кремль в своих планах все больше расходится с хозяином минского "Красного дома", свидетельствует невиданное по резкости и агрессивности недавнее выступление "лидера всех славян" в Гродно, в котором он обрушился на российское руководство с обвинениями в подрыве союза Беларуси и России, иначе говоря, в нежелании следовать его прожектам.

В том, что касается "развода" между Кремлем и Минском, весьма показательна реакция на это белорусских государственных СМИ. Белорусское телевидение который день подряд не перестает клеймить Познера и его программу за то, что он провел "заказную подрывную акцию" против главы белорусского государства. Звучат намеки, что это чуть ли не сионистский заговор. В адрес Александра Любимова (ведущего на ОРТ программу "Здесь и сейчас"), показавшего интервью с представителем ОБСЕ в Беларуси Виком, тоже посыпались обвинения в подрывной деятельности против А. Г. Заодно журналисту вменили в вину родственные связи с неким разведчиком Любимовым.

Между прочим, хорошо известно о том, что Любимов, перед тем как пригласить Вика, зазывал в свою программу "всенародноизбранного", но тот уклонился. Оно и понятно, легко быть героем на подконтрольном тебе телевидении, а каково чувствовать себя, когда тебе задают неудобные вопросы, да еще с подковыркой.

Итак, судя по всему, мы являемся свидетелями не просто размолвки Кремля и Минска. Переправа кончилась. Состоявшийся 12 июня праздник Дня России подвел черту под эпохой Ельцина. Кремлевское политическое руководство будет менять старые кадры. Есть основания надеяться, что 9 сентября ветер кадровых перемен отзовется в Беларуси.

# Открытое письмо

## председателям областных, городских и районных исполнительных комитетов, руководителям предприятий и организаций

Дата выборов Президента Республики Беларусь наконец определена.

В условиях, сложившихся в нашей стране за последние семь лет, избрание нового главы государства для народа Беларуси имеет поистине судьбоносное значение. Вы, пожалуй, как никто другой, не можете не чувствовать того, что так дальше жить нельзя. Уверены: люди, честно выполняющие свой профессиональный, гражданский долг, не хотят мириться с некомпетентностью, грубостью и своеволием тех, кто присвоил себе право решать все и за всех, ни перед кем не отвечая ни за что.

По существу всем нам предстоит сделать выбор: безропотно согласиться с дальнейшим погружением страны, большинства ее граждан в пучину нищеты и бедности, бесправия и произвола или изменить жизнь к лучшему.

Мы не раз открыто и четко обозначали свою позицию по важнейшим вопросам развития экономики, общества и государства, говорили о необходимости изменения социально-экономической политики в интересах людей. Убеждены, что наши предложения отвечают чаяниям и надеждам большинства населения республики. Без смены нынешнего курса не выйти из состояния глубокого кризиса и не обеспечить достойные условия оплаты труда, а пенсионерам, инвалидам, чернобыльцам, учащейся молодежи — надежную социальную защиту. В международном плане необходимы развитие не декларативного, а реального взаимовыгодного сотрудничества с Россией в Союзе двух суверенных государств, обеспечение достойного места Беларуси в мировом сообществе.

От вас требуется только одно: не поступиться совестью, не покривить душой, обеспечить строгое соблюдение законодательства при формировании избирательных комиссий, на всех этапах предвыборной кампании, процесса голосования и подсчета его итогов.

Мы заявляем, что у нас нет каких-либо скрытых замыслов, личных карьерных амбиций. После победы нашей команды будут обеспечены спокойная атмосфера в обществе, необходимая кадровая стабильность и преемственность в государственных органах, хозяйственных структурах, при безусловном уважении профессионализма и опыта каждого честного руководителя, государственного служащего, каждого работника.

Вместе мы в состоянии преодолеть накопившиеся в обществе трудности и проблемы, обеспечить лучшую долю для народа, законный порядок для всех.

**ГОНЧАРИК В.И., ДОМАШ С.Н., КАЛЯКИН С.И., КОЗЛОВСКИЙ П.П., ЧИГИРЬ М.Н.**

**СКАНДАЛ**

# Хто такія Дзмітрый Петрушкевіч і Алег Случак?

*Гэтым двум людзям прыпісваецца аўтарства інтэрв'ю, якія ўтрымліваліся ў ананімным лісце, разасланым 10 чэрвеня электроннай поштай у беларускія сродкі масавай інфармацыі.*

У інтэрв'ю прыводзілася інфармацыя, якая мае дачыненне да знікненняў у Беларусі ў 1999—2001 гадах палітыкаў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, журналіста Дзмітрыя Завадскага і некаторых іншых асоб. У прыватнасці, ішла размова аб стварэнні з ведама прадстаўнікоў кіраўніцтва краіны групы для выкрадання і забойства людзей. Усяго, як гаварылася ў інтэрв'ю, гэтай групай было ўчынена больш за 30 забойстваў, у тым ліку на яе рахунку выкраданні палітыкаў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, аператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага.

Як пацвердзіла прэс-служба рэспубліканскай Пракуратуры, Дзмітрый Петрушкевіч уваходзіў у склад следчай групы па справе аб знікненні Дзмітрыя Завадскага. Аднак, на думку прэс-службы, Дзмітрый Петрушкевіч выконваў толькі "тэхнічныя функцыі", а таму "не можа ведаць нічога істотнага ў дадзенай справе". Звесткі, прыведзеныя ў разасланых электроннай поштай інтэрв'ю, прэс-служба Пракуратуры назвала "правакацыйнай выдумкай".

Алег Случак, паводле інфармацыі БелаПАН, да 1999 года працаваў следчым пракуратуры Фрунзенскага раёна Мінска, а апошні год уваходзіў у склад грамадскай камісіі па расследаванні фактаў знікнення вядомых палітыкаў.

Дзмітрый Петрушкевіч і Алег Случак, паводле звестак БелаПАН, былі добра знаёмы адзін з адным. Па непацверджаных звестках, тэрыторыю Беларусі яны пакінулі па ўласнай волі ў перыяд з 5 па 7 чэрвеня. У тэлефоннай размове з кіраўніком арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" Алегам Волчакам Алег Случак заявіў, што ён і Дзмітрый Петрушкевіч знаходзяцца ў бяспецы, а таксама пацвердзіў, што менавіта яны далі разасланыя ў ананімным лісце інтэрв'ю.

Нявеста Дзмітрыя Петрушкевіча і сям'я Алега Случака (жонка і маленькае дзіця) засталіся ў Мінску.

Паводле непацверджанай інфармацыі, Дзмітрый Петрушкевіч і Алег Случак звярнуліся да ўрада ЗША з просьбай прадаставіць ім палітычны прытулак у гэтай краіне. У аддзеле інфармацыі Пасольства Злучаных Штатаў у Беларусі інфармацыйнай кампаніі БелаПАН не пацвердзілі, але і не абверглі гэтую інфармацыю.

**Сяргей СНЕГІН.**

Народная Воля
14 ЧЭРВЕНЯ 2001 г.

РЭГІЁН

## Асадзі назад!

Так дапякла калгасная нішчымніца жыхароў вёскі Язна Міёрскага раёна, што многія падалі заявы з просьбай павялічыць памеры прысядзібных участкаў да трох гектараў кожнаму. Калі б іх задаволілі, нарадзілася б сенсацыя рэспубліканскага ўзроўню. У такім выпадку мясцовы калгас "Язна" аўтаматычна спыніў бы сваё існаванне. Зразумела, у год выбараў новага прэзідэнта пайсці на такі крок уладам надта рызыкоўна. Між іншым, дзесяць калектыўных гаспадарак у раёне завяршылі 2000 год са стратамі. Сельская гаспадарка працягвае развальвацца. Сведчаннем гэтага стала тое, што ў першым квартале 12 мясцовых калгасаў зменшылі рэалізацыю мяса, а 6 — вытворчасць малака.

## Гаспадары і батракі

З вялікімі цяжкасцямі сутыкнуліся бацька і сын Барысавы, калі на пачатку сваёй фермерскай дзейнасці атрымалі 16 гектараў зямлі ў саўгасе імя Маркава Шаркоўшчынскага раёна. Справы пайшлі значна лепш, калі яны перабраліся ў суседні Глыбоцкі раён, у вёску Мосар. Напярэдадні сёлетняй вясны ў карыстанні гаспадароў стала ўжо 240 гектараў арандаванай зямлі. Акрамя гаражоў на сем трактароў, крытых сховішчаў для вырашчанай прадукцыі, сёння сядзібу Барысавых упрыгожвае прасторная лазня. У ёй мыліся памочнікі з горада, якіх нанялі на пасадку бульбы. Сучасных "батракоў" кармілі двойчы на дзень, вазілі на работу і назад на мікрааўтобусе "Газель". Штодзённа ў канцы дня гаспадары разлічваліся за выкананую працу, акрамя таго, кожны памочнік меў права забраць дадому вядро бульбы. Лепшыя гатункі галандскай рэпрадукцыі ў Барысавых ужо давалі ўраджай па 700 цэнтнераў клубняў з гектара.

## Цяп-ляп — і гатова

Шыкоўныя асабнякі для маладых сем'яў паспелі будаўнікі завяршыць у калгасе імя Даватара Шаркоўшчынскага раёна перад Новым годам. Але пад вясну нават зямля вакол гэтых дамоў у вёсцы Пялікі прасела. А ў саміх пакоях быццам адбыўся землятрус. Фарбы пасыпаліся, падлогі прагнуліся, дзверы перакасіліся, а па сценах, не паспелі людзі засяліцца, пайшлі трэшчыны. Добра яшчэ, што мясцовая ПМК №68 пагадзілася за свае сродкі правесці капітальны рамонт толькі што здадзенага жылля. Акрамя нізкай якасці работ, будаўнікі не здолелі своечасова засвоіць сродкі, выдаткаваныя на будоўлю райбальніцы, не здалі ў тэрмін жыллё для працаўнікоў саўгаса "Гарадзец". За мінулы год у гэтым краі тэмпы будаўніцтва ўпалі на 15 працэнтаў, у новы век перайшло 35 недабудаваных жылых дамоў. Тым часам лепшыя кадры ў пошуках лепшай долі шукаюць заказы на прасторах Расіі.

## Кацінная ежа — людзям

Не паспеў каўбасны цэх Докшыцкага райспажыўтаварыства наладзіць у сябе вытворчасць ліверных каўбас, як адчуў на гэту прадукцыю павышаны попыт. Выстройваюцца чэргі ў магазіне "Меркурый", калі туды завозяць каўбасы з крывёй, рознымі дабаўкамі, субпрадуктамі, бо кошт іх танней. Гэта толькі ў Еўропе розныя капыты, галовы, хвасты і вантробы паядаюць каты і сабакі, а ў нас фактычна адыходы мясапрадуктаў разыходзяцца за мілую душу. Такіх "далікатэсаў" рэалізавалі за год 21 тону. Праўда, парадавала калектыў тое, што крыху больш, чым у папярэднія гады, насельніцтва стала здаваць жывёлу на забой. Магчыма, нарыхтоўкі свініны і ялавічыны дасягнулі 104 тон таму, што пачалі практыкаваць па жаданні здатчыкаў частку мяса вяртаць фаршам або ў выглядзе гатовай вэнджаніны. Як і раней, за адну вырашчаную галаву жывёлы можна зарабіць грошай на тэлевізар або халадзільнік.

**Уладзімір ШЫК.**

## У Крычаў па хлеб

Апошнім часам жыхары суседніх раёнаў, што звязаны з Крычавам чыгункай, прыязджаюць сюды па хлеб. Гэта адбываецца таму, што хлеб тут больш танны (на 100—150 рублёў), чым, напрыклад, у Касцюковічах ці Клімавічах. А хлебабулачныя вырабы, якія прывозяць у гэтыя гарады з суседняй Расіі, у мясцовых жыхароў не карыстаюцца попытам. Прыязджаюць у асноўным пенсіянеры, беспрацоўныя і іншыя катэгорыі маламаёмасных грамадзян.

Факт вялікіх коштаў на касцюковіцкі і клімавіцкі хлеб мае простае тлумачэнне. У гэтых гарадах усе хлебазаводы з'яўляюцца кааператыўнай уласнасцю і таму сабекошты на муку маюць высокую кааператыўную нацэнку.

## Забытыя Богам

Нягледзячы на сённяшні супертэхналагічны ўзровень развіцця сродкаў сусветнай камунікацыі і, як яе састаўляючай часткі, шляхоў зносін, у Беларусі яшчэ захаваліся месцы, якія практычна не закранула цывілізацыя. Асабліва гэта тычыцца ўсходняй часткі краіны.

Згодна з апошняй інфармацыяй, у 14 населеных пунктах Клімаўшчыны ўвогуле адсутнічае тэлефонная сувязь. Яны практычна адарваны ад астатняга свету! А да 21 вёскі раёна не падведзены ці знаходзяцца ў незадавальняючым стане пад'язныя шляхі.

Як быць з людзьмі ў выпадку магчымага пазаштатнага здарэння, не ведае ніхто. Трэба адзначыць, што ў асноўным у гэтых забытых Богам населеных пунктах пражываюць людзі сталага ўзросту.

## Было б жаданне...

Калі нехта лічыць, што правінцыяльныя беларускія мястэчкі, якія не абцяжараны грувасткімі прамысловымі прадпрыемствамі ці навукаёмістымі вытворчасцямі, не маюць экалагічных праблем, то той жорстка памыляецца.

Так, 7 калгасаў і саўгасаў Мсціслаўскага раёна не маюць спецыяльнага дазволу на спецводакарыстанне, аднак працягваюць бескантрольнае забруджванне мясцовых вадаёмаў. Мала таго, пасвяць жывёлу прама на берагах рэк. Больш мэтазгодным лічыцца перыядычна плаціць штрафы. Памеры гэтых штрафаў смела можна назваць смешнымі — яны паппросту мізэрныя.

Дарэчы, раённы цэнтр не адстае ад вёсак. На сённяшні дзень у гарадскіх каналізацыйных сцёках канцэнтрацыя шкодных для здароўя чалавека рэчываў перавышае максімальна дапушчальныя нормы не менш чым у 3 разы.

**Андрэй КУЗЬМІН,**
**кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр".**
**г.Крычаў.**

## Авария во Фрунзенском районе столицы

**ЧП районного масштаба произошло во вторник вечером в доме №41 по улице Одинцова в Минске. В результате короткого замыкания случился обрыв нулевого магистрального провода в подвале одного из подъездов.**

Рядовая в общем-то ситуация принесла жильцам подъезда много неприятностей — в их квартирах отключились все бытовые электроприборы. Позже было подсчитано общее количество испорченной техники — 17 телевизоров, 16 телефонов, 5 холодильников, 5 видеомагнитофонов, компьютер... Внутри электроприборов выгорели многие детали, так что их ремонт обойдется недешево. И не исключено, что расходы по ремонту аппаратуры вынуждена будет взять на себя ЖЭС.

**Иван ВАЛЕРЬЕВ.**

## Два килограмма героина не дошли до потребителя

10 июня в поселке Ждановичи, что под Минском, инспектор ГАИ остановил за превышение скорости автомобиль с российскими номерами. Проезжавшие мимо сотрудники Комитета по организованной преступности при МВД, увидев возбужденных южан, доказывавших свою правоту инспектору, решили помочь коллеге. Так как у "гостей" отсутствовали паспорта и справка о временной регистрации в Беларуси, им было предложено проехать в ближайший отдел милиции, где при досмотре машины оперативники обнаружили под задним сиденьем килограмм героина. Один из пассажиров, уроженец Ташкента, закурив сигарету, рухнул на землю без сознания. Прибывший врач был вынужден констатировать его смерть.

Проверяя связи другого пассажира, уроженца Чечни, оперативники вышли на его родственников, проживающих в деревне Анусино Минского района, где на даче в тайнике они нашли еще один килограмм героина.

**Виктор ПОТАПЕНКО.**

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ

# Ці ўся праўда падаецца ў хроніках "Памяць"?

*Адна за другой выходзяць дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Шматтомнае выданне ствараецца паводле рашэння, прынятага яшчэ пры П.Машэраве. На жаль, падрыхтоўка хронік цыклу "Памяць", апісанне ў іх падзей, асабліва найноўшых, дагэтуль робіцца нярэдка з пазіцый даперабудовачага часу.*

Слоў няма: творчыя калектывы, што працавалі і працуюць над хронікамі, рабілі і робяць сапраўды тытанічную працу. Апытаны тысячы і тысячы людзей, перагорнуты мільёны старонак гістарычных дакументаў. Не засталася забытай ніводная вёска Беларусі. Але засмучае, што многія факты падаюцца не заўсёды дакладна ці зусім замоўчваюцца, не знаходзяць аб'ектыўнага асэнсавання.

Перад намі кніга "Памяць" пра Карэліцкі раён. Чытаем: "У 1897 годзе ў мястэчку (Турэц) было 1596 жыхароў... "На 01.01.2000 г. 670 жыхароў". У вёсцы Любанічы ў 1897 годзе быў 431 жыхар. На 01.01.2000 г. 115 жыхароў". І так амаль што па кожнай вёсцы. Ці не праўда: трывожныя звесткі, якія выразна характарызуюць нашу сучаснасць? Але пра гэта — ні слова.

Засмучаюць упушчэнні ў раздзеле "Яны прайшлі дарогамі вайны". Жыве яшчэ нямала ўдзельнікаў і сведак тых трагічных падзей. І кожная памылка ў гэтым плане, нават дробязная, безумоўна, іх крыўдзіць. Так, прозвішчы некаторых удзельнікаў вайны з Турэцкага сельскага савета пішуцца непісьменна: напрыклад, прозвішча Чачотка падаецца як Чачэтка. А ёсць удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, якія наогул не ўпамінаюцца.

Не названы, напрыклад, І.Г.Чачотка з вёскі Тарасавічы, які ваяваў за Беларусь, вызваляў Румынію, меў шмат узнагарод. Не ўпамінаецца ў "Памяці" і Георгій Васільевіч Сілко з той жа вёскі. Ён змагаўся за тое, каб у Заходняй Беларусі, што апынулася пад уладай Польшчы, жыла беларуская мова, працавала беларуская школа. Сходкі праходзілі за вёскай Вялікая Слабада, ля ракі Сервеч. Не раз яго хапалі палякі і вельмі здзекваліся — патрабавалі выдаць іншых падпольшчыкаў. Аднак Георгій Васільевіч гэтага не зрабіў, і яго кінулі ў турму.

У 1940 годзе Г.Сілко прызвалі ў рады Чырвонай Арміі. Служыў стралком-радыстам, затым вучыўся ў школе для чэкістаў. Аднак з пачаткам вайны ў яго біяграфіі пачаліся непаразуменні. У сувязі з тым, што Георгій Васільевіч быў з Заходняй Беларусі і ўдзельнічаў у падпольнай барацьбе, яму не толькі не дазволілі больш ваяваць, а пасадзілі ўжо ў савецкую турму. Вярнуўся ён дамоў пасля вайны. Але, напакутаваўшыся ў польскай і савецкай турмах, цяжка захварэў і памёр ва ўзросце 56 гадоў. І пра такога чалавека ў хроніцы — маўчок.

Варта і вось што сказаць. З першых дзён вайны ў вёсках раёна з'явіліся чырвонаармейцы, якія вырываліся з варожага акружэння і заходзілі ў сялянскія хаты ў пошуку прытулку. Прымалі іх, як сваіх сыноў, хоць і ведалі: калі гэта раскрыецца, усім ім пагражае смерць.

У той жа вёсцы Тарасавічы сустрэў добрых людзей Дзмітрый Іванавіч Семянцоў. Крыху пазней ён з такіх, як і сам, былых чырвонаармейцаў і жыхароў навакольных вёсак тагачаснага Мірскага раёна сфарміраваў асобы партызанскі атрад.

І нават цяпер, праз столькі гадоў, сярод мясцовых людзей ходзяць легенды пра Дзмітрыя Іванавіча. Ён быў не толькі адважным камандзірам, але і душэўным чалавекам. Любіў іграць на гітары, спяваць. Старэйшая вяскоўка Ніна Ульянаўна Сілко ўспамінае: "Амаль 60 гадоў прайшло, але і сёння ўсе памятаюць яго песні. Так прыгожа спяваў, іграў, што мы аж плакалі. Яшчэ ён гаварыў:

— Колькі я прайшоў адступаючы, але нідзе такіх добрых людзей, як у Тарасавічах, не сустракаў.

І абяцаў:

— Пакуль жыве наш партызанскі атрад, ніхто не прычыніць вам шкоды".

Так яно і было. Але ў снежні 1942 года ў вёсцы Новае Сяло Дзмітрый Семянцоў загінуў.

Усю вайну і потым шмат гадоў падзея гэтая хвалявала жыхароў навакольных вёсак. З вуснаў у вусны перадавалася, што партызанскага камандзіра застрэліў — ззаду ў галаву — другі камандзір, таксама з чырвонаармейцаў — Д.А.Дзенісенка, які даслужыўся да камандзіра 1-й Беларускай кавалерыйскай брыгады. Пакуль Дзенісенка быў камандзірам і атрымліваў урадавыя ўзнагароды, а пасля вайны працаваў на адказных партыйных і гаспадарчых пасадах і таксама адзначаўся ўзнагародамі, ніхто не мог не толькі сказаць, але нават шапнуць пра тое, што на яго руках — кроў таварыша, бязвіннага чалавека.

У 1977 годзе справай Д.І.Семянцова па хадайніцтве яго сястры Н.І.Семянцовай урэшце занялася ваенная пракуратура. Вось што яна ўстанавіла. Семянцоў быў расстраляны Дзенісенкам быццам бы па загадзе камандавання Баранавіцкага партызанскага злучэння "за марадзёрства і грабеж" мясцовага насельніцтва. Быццам бы Семянцоў забраў боты і адзенне ў бацюшкі з вёскі Ярэмічы. Але нават калі такое б і здарылася, адзначае пракуратура, па законах ваеннага часу расцэньваць гэта як марадзёрства нельга. Таму ўчынак Дзенісенкі быў адносна Семянцова кваліфікаваны як службовае воінскае злачынства. Аднак 14 ліпеня 1977 года ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах да яго было адмоўлена ў выніку акту амністыі. Пастанову аб гэтым зацвердзіў тагачасны ваенны пракурор ЧБВА генерал-маёр юстыцыі В.І.Івахнюк.

Ці ведалі пра ўсё гэта складальнікі карэліцкай "Памяці"? Крымінальніка назваць героем, а невіноўнага абысці ўвагай — гэта несправядлівасць перад гісторыяй.

І яшчэ вельмі сумная дэталь у адказе з ваеннай пракуратуры: быццам пры разглядзе гэтай справы следчымі не атрымана ніякіх звестак пра тое, ці праходзіў Д.І.Семянцоў вайсковую службу да вайны. Але ж тое, што ён быў разам з тысячамі чырвонаармейцаў, якія адступалі і знаходзіліся ў нашых заходнебеларускіх вёсках у першы год вайны, нікім не абвержана. Можна ж было спытаць і ў яго сястры, Ніны Іванаўны Семянцовай, якая падавала скаргу ў пракуратуру. Дык што: чырвонаармейцы-акружэнцы, якія ў далейшым змагаліся з фашыстамі, не маюць права на народную памяць?

Як сцвярджаюць жыхары вёсак Тарасавічы і Вялетава, Дзенісенка забіў Міцю Семянцова таму, што партызаны хацелі выбраць апошняга камандзірам аб'яднанага атрада — як смельчака, што тры разы ўцякаў з нямецкага палону, як разумнага і добрага чалавека. А тыя няшчасныя боты ў бацюшкі з Ярэміцкай царквы, як высветлілася, забраў зусім не Дзмітрый, а іншы партызан — Клім яго звалі. І Дзенісенка яго за гэта і расстраляў, — яшчэ перад тым, як забіў Міцю.

Спасылка Дзенісенкі на тое, што ён застрэліў Семянцова нібыта па загадзе камандавання Баранавіцкага партызанскага злучэння, лічым, не вытрымлівае крытыкі. Бо ў пачатку партызанкі, тады, калі яны толькі пайшлі ў лес, у Налібоцкую пушчу, ніякага Баранавіцкага злучэння яшчэ не было.

Але ў дадзеным выпадку атрымалася так: хто застаўся жывы, той аказаўся са шчытом...



*Деревня Старые Борки Малоритского района. В годы фашистской оккупации здесь были зверски замучены и расстреляны ее жители. Свидетельница тому — 82-летняя Вера Петровна Федорук (на снимке). Она находит силы, чтобы прийти к памятнику: здесь погиб ее муж Тимофей Григорьевич.*

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

На наш погляд, у карэліцкай хроніцы тэндэнцыйна апісана гаспадарчая дзейнасць некаторых кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў пасля ваеннага часу. Так, цэлых дваццаць гадоў старшынёй калгаса імя Дзімітрава працавала Я.Ц.Кіслухіна. У памяці сялян засталіся яе пагардлівыя адносіны да простага хлебароба. Не раз яна займалася рукапрыкладствам, абражала людзей, прыніжала. Аднак, згодна з кнігай "Памяць", Кіслухіна амаль ці не герой...

І ўжо зусім недарэчнасць атрымалася ў раздзеле "Дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Рэспублікі Беларусь". Шукаем прозвішча Івана Уладзіміравіча Свірыда з вёскі Вялетава. Памятаем яго гарачыя палемічныя выступы на сесіях Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Мусіць, з-за гэтай палемічнасці, грамадзянскай неабыякавасці складальнікі "Памяці" і палічылі, што землякі не павінны ганарыцца І.У.Свірыдам. Вось гэта і ёсць пазіцыя бальшавікоў: уганароўваць толькі тых, каго яны самі лічаць дастойнымі.

Назавём тых, хто рыхтаваў кнігу "Памяць" аб Карэліцкім раёне. У раённую камісію па стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі ўваходзілі А.М.Наумовіч (старшыня камісіі), Л.П.Гоўша, В.В.Грышэчка, У.І.Карпук, С.А.Кашур, Н.А.Крывапуст, В.К.Кунашка, В.Ф.Кушнер, У.Р.Кунцэвіч, Л.У.Рахманковіч, А.І.Самец, У.М.Тананка. Людзі сталыя, паважаныя. Шкада, што, кажучы ім шчырае дзякуй за вялікую працу, нельга не ўтрымацца і ад сур'ёзных заўваг.

**Н.САКАЛОВА.**
**А.ГАНАРОВІЧАЎ.**

# Нашу деревню поставили на колени...

**Поднять деревню с унизительного положения могут сельские профсоюзы. Но для этого им надо и самим подняться. Так считает председатель Белорусского профсоюза работников агропромышленного комплекса Александр Ярошук.**

Чтобы грамотно и успешно решать какую-либо проблему, надо в первую очередь реально и правильно оценить возникшую ситуацию. Говоря проще — честно посмотреть правде в глаза. А она, к сожалению, не утешительна: сельское хозяйство Беларуси, являющееся, по сути, фундаментом всей экономики страны, продолжает деградировать. Причем касается это и финансово-экономического состояния подавляющего большинства наших хозяйств, и социального — ведь эти вещи связаны напрямую.

Такую мою общую оценку нынешней ситуации в агропромышленном комплексе страны, т.е. усугубление негативных тенденций, подтверждает и статистика. Например, по итогам 2000 года число убыточных хозяйств приблизилось в целом по республике к цифре 1200. Это, по сути, половина.

За сухими и бесстрастными цифрами статистики стоят люди и их жизнь. Самое печальное и, подчеркну, опасное в складывающейся ситуации — это не столько деградация сельской экономики, сколько деградация всей Белорусской Деревни со всем ее многовековым укладом и бытом. Она стареет буквально на глазах, причем в последние годы этот процесс развивается просто стремительно. Исчезают целые деревни, наблюдается огромная миграция населения в города.

Деревня является колыбелью любой нации, ее фундаментом, ее лицом. Без крепкой деревни не бывает и крепкого государства. Именно она — основа и опора всякой уважающей себя страны.

Простые, казалось бы, истины. Понятные формулы. Однако у нас они почему-то усваиваются с трудом. Особенно на государственном уровне, когда соблазн решить возникающие проблемы в экономике за счет молчаливой и терпеливой деревни очень часто побеждает здравый смысл. Поэтому деревня, на людских и материальных ресурсах которой строился так и не достроенный коммунизм, оказалась крайней и в так называемый переходный период, когда цены на промышленную продукцию прыгали каждый день, а на сельскохозяйственную изо всех сил держались "на привязи".

Сельское хозяйство долгое время было и остается по-прежнему "дойной коровой" для государства: оно обязано не только кормить страну, но и держать на своих плечах социальную инфраструктуру села вместе с самой местной властью впридачу. Во нагрузили так нагрузили!..

Бесконечно это продолжаться, понятно, не может. Поэтому скажу просто: белорусская деревня устала и морально, и материально. Моральную сторону проблемы я бы подчеркнул особо. Именно эта тема постоянно возникает в разговорах с людьми, когда бываешь в хозяйствах. Зачастую того же сельского пенсионера, отдавшего колхозу полжизни, и выслушать толком никто не хочет, не говоря уже о том, чтобы помочь. Не намного лучше чувствуют себя и те, кто еще работает в поле или на ферме, когда приходится решать бытовые проблемы.

И в этой ситуации, я уверен, нам просто необходимо усиливать роль сельских профсоюзных комитетов. Они должны не только заботиться о простых людях, но и защищать их. Ведь в профсоюзе работников АПК состоит более миллиона человек. Мы знаем друг друга в лицо, мы не сможем придумывать сказки о том, как хорошо жить при нынешней власти. А именно такие сказки, сочиненные госпропагандой, наводнили сегодняшнюю деревню. Вот и живет умирающая деревня в нереальном мире, спивается...

**У нашей деревни остались последние запасы прочности. Каркасом этой прочности будут сейчас профсоюзы. Вместе с деревней мы должны встать с колен.**

ЭХО

# Да, мы славяне. Ну и что?

На фоне режущего слух косноязычия многих радиоведущих и дикторов Белорусского радио голос артистки Зои Осмоловской звучит, словно музыка. Высокий профессионализм, четкая дикция, женственная мягкость и душевность ведущей просто подкупают. Казалось бы, передачу "Возвышенное и земное", которую она ведет по воскресеньям, слушать и слушать. Но... В этой сладкозвучной музыке то и дело звучит неприятная, настойчивая нота: "Мы — славяне... Мы — православные... Мы — русские... У нас в России" и тому подобное.

Извините, уважаемая, но о ком это вы: "мы — русские"? Ведь, согласно последней переписи населения, в Беларуси около 80 процентов белорусов. Вы что же, исключаете их из числа своих слушателей или берете на себя ответственность переиначить результаты переписи?

Мотивы об исключительности, даже мессианской роли славянства, русскости все навязчивей и агрессивней с "легкой" руки главного славянского интегратора звучат и в иных передачах, прежде всего "Разговоре по существу" Н.Чайки и Ю.Дудинова. Людям стремятся вбить в голову, что, дескать, мы, славяне, в отличие от остальных, — самые духовные (ближе к Богу, что ли?), самые хорошие, самые достойные. Так почему же тогда при всех этих "славянских добродетелях" Бог не дал нам ума, чтобы по-людски построить свою жизнь, выбрать себе людскую власть?

Фальшиво и безнравственно, считаю, упрекать иные народы, что они очень уж ценят материальные блага. "Хорошим славянам" на территории бывшего СССР этих благ ой как не хватает! А те заказные пропагандисты, кто противопоставляет достойную человека обеспеченную жизнь высокой "славянской духовности", к последней, по-моему, имеют слабое отношение. Зато от материальных благ для себя, уверена, вряд ли отказываются.

Да, мы славяне. Ну и что из этого? Разве это морально — возносить одну этническую общность и религию над другой? И разве это не напоминает зловещую теорию превосходства "арийской расы", которая обошлась человечеству в десятки миллионов жизней?

**От имени своей семьи**
**Ольга ХОДОНОВИЧ,**
**жительница Гомеля.**

# Если хочешь хорошо жить...

Несмотря на все оптимистические уверения нынешнего президента А.Г.Лукашенко о нашем светлом будущем, живем мы пока по-прежнему неважно. Поправить свое материальное положение не всем по силам.

Моя однокурсница, студентка БГУ, решила перевестись с дневного обучения на заочное, чтобы пойти работать. Казалось бы, что может быть правильнее, наконец-то она сможет помочь родителям. Но тут ее ожидал неприятный сюрприз: оказывается, за каждый "досданный" экзамен или зачет нужно заплатить... 25 у.е. А сдавать придется около 10 предметов, только чтобы перевестись с 4-го курса дневного обучения на 4-й же курс заочного.

Все бы ничего, да вот не в состоянии пока заплатить такую сумму ни она сама, ни ее родители. И дело не в том, что они больны или не работают по какой-то другой причине. Просто работают "не там" — в совхозе, а зарплата там, сами представляете, как раз около 25 у.е. в месяц.

**Алла БОГДАНОВА.**

